# ВАСІЛЬ БЫКАЎ — МАРАЛЬНЫ ЭТАЛОН БЕЛАРУСІ

## Праз яго ўспрымалі Беларусь

Цяпер атрымалі мы права вымавіць услых тое, што адчувалі даўно: нашы дзеці і ўнукі, нашы нашчадкі будуць успрымаць нас як сучаснікаў Васіля Быкава.

З самага пачатку новай хвалі беларускага нацыянальнага Адраджэння Быкаў выступіў у ягоную падтрымку. Уласна, ён і быў сімвалам гэтага Адраджэння, і менавіта праз Быкава свет успрымаў новую Беларусь. Пазней, у эміграцыі, я пераканаўся, што менавіта гэтым імем і палітыкі, і журналісты ацэньваюць патэнцыял нацыі. Гэта я бачыў і ў амерыканскім Кангрэсе, і ў брытанскай Палаце лордаў, і ў польскім Сойме.

Для тых жа, хто меў дачыненне да аднаўлення беларускай дзяржаўнасці (кажу пра дэпутатаў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання), Быкаў быў не толькі падтрымкай, але і маральным эталонам: нашы ўчынкі вымяраліся ўяўленнем — "А што скажа Быкаў?". Ва ўсялякім разе, для мяне асабіста нічога не былі вартыя громападобныя крыкі дэпутатаў-генералаў з тэлеэкрана, але былі вызначальнымі ціхія быкаўскія словы ў тэлефоннай размове.

А сам Быкаў быў вельмі зямны. Ужо маючы з ім даўняе і, можна сказаць, вельмі блізкае знаёмства — летась увосень я быў проста шакіраваны, калі ён патэлефанаваў тады яшчэ з Нямеччыны з адзінай мэтай — павіншаваць маю дачку з гадавінай з дня нараджэння (дачцэ спатрэбіцца гадоў яшчэ пятнаццаць, каб уцяміць, хто яе віншаваў). Сумаўляючыся з ім апошні час ці не кожны дзень, не памятаю, каб ён не перадаў прывітанні бацьку, маці ці жонцы...

Ён вельмі хацеў прыехаць на Радзіму, у Беларусь, але — насуперак некаторым апошнім сцвярджэнням — зусім не збіраўся прыехаць паміраць на Бацькаўшчыну. Ва ўсялякім разе, я чуў ад яго пра вельмі канкрэтныя еўрапейскія планы.

На пачатку сакавіка пачуў ад яго: "Калі нават будзе самы страшны дыягназ, я прыму гэта як наканаванае". Дыягназ, на жаль, быў самы страшны. І тыя, хто ведаў пра яго і хто быў побач, атрымалі яшчэ адзін урок Быкава — урок мужнасці і вытрымкі.

Хай жа хопіць сіл перажыць гэтыя дні Ірыне Міхайлаўне, ягоным сынам і блізкім. А зямля, па якой хадзіў хлопчык з Чарапоўшчыны, што на Ушаччыне, — прыме выбітнага пісьменніка, які здабыў усясветную славу яе і ягонаму народу.

**Сяргей НАВУМЧЫК.**

*Прага.*



*З Алесем Адамовічам.*

*Івонка СУРВІЛЛА,*
*старшыня Рады*
*Беларускай Народнай Рэспублікі:*

## Мы страцілі найбольш выдатнага прадстаўніка нашай культуры

"Я лічыла яго адным з найбольш любых, паважаных людзей, якіх я ведаю. Тое спатканне было такое цудоўнае.

Сапраўды, і гонар і шчасце, што мне Бог дазволіў яго пазнаць у Празе. Два разы я спаткалася з ім у Празе, і абодва разы была сапраўды захопленая гэтымі спатканнямі.

І страшэнны боль, калі я атрымала вестку пра ягоную смерць, чалавека, якога я так моцна паважала і любіла.

Страцілі мы не толькі вялікага беларуса, якім кожны з нас ганарыўся, але і найбольш выдатнага прадстаўніка нашай культуры 20-га і пачатку 21-га стагоддзя.

Асірацелі ўсе мы, увесь беларускі народ. Вечная яму памяць. З глыбіні сэрца хачу перадаць самыя шчырыя спачуванні спадарыні Ірыне, усім прыяцелям і сям'і Васіля Быкава.

Усім вядома, што Быкава называлі сумленнем Беларусі, і я поўнасцю падзяляю гэтую думку. Ён быў адданы, ён любіў наш народ, фактычна, ён так моцна любіў наш народ, што не мог не падтрымліваць нашага руху за незалежнасць, за волю Беларусі. Вялікім натхненнем ён быў для мяне і, я думаю, для кожнага з маіх супрацоўнікаў".

## Самая цяжкая страта для Беларусі

Смерць народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава з'яўляецца самай цяжкай стратай для айчыннай літаратуры, нацыянальнай культуры і ўсёй Беларусі, лічыць старшыня грамадскай ініцыятывы "Рада беларускай інтэлігенцыі", заснавальнік Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Уладзімір Колас.

У інтэрв'ю БелаПАН ён сказаў: "Мы яшчэ да канца не асэнсавалі, кім быў для нас Быкаў і як нацыя вінаватая перад ім. Вінаватая ў тым, што апошнія дні свайго жыцця ён пражыў у выгнанні, у цяжкіх умовах, зведваючы страшэнны ціск афіцыйнай варожасці. Безумоўна, Быкаў з'яўляецца сумленнем нацыі. Я ўпэўнены ў тым, што толькі маральныя нормы, прапісаныя ў яго творах, дазволяць нам знайсці правільны шлях у жыцці. Пакуль жа, на вялікі жаль, грамадства не прызнае законы Быкава".

## БНФ спачувае

Управа сойму Партыі БНФ выказала спачуванні родным і блізкім народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, які памёр увечары 22 чэрвеня ў анкалагічнай клініцы ў Бараўлянах на 80-м годзе жыцця.

"Васіля Быкава больш няма з намі, — адзначаецца ў жалобным паведамленні Управы сойму БНФ. — Выдатны творца сусветнага маштабу, Васіль Быкаў увасабляў сабой сумленне беларускага народа. Мужны франтавік у гады Другой сусветнай, абаронца праўды пра вайну ад афіцыёзных фальсіфікатараў, ён гэтаксама мужна і без ваганняў стаў ля вытокаў Беларускага Народнага Фронту, калі трэба было змагацца за Бацькаўшчыну з таталітарнай сістэмай".

"Маральны аўтарытэт Быкава непахісны. Да ягонага слова ў абарону Свабоды і Незалежнасці прыслухоўваліся літаральна ўсе беларусы — незалежна ад поглядаў", — падкрэсліваецца ў паведамленні.

*Валянцін ТАРАС:*

## Гэта гора ўсёй Беларусі

Я нават не ведаю, з чаго пачаць, таму што душаць слёзы, душыць вялікае гора. І падтрымка толькі ў тым, што гэта не толькі маё гора, а гора ўсёй Беларусі, усёй нашай літаратуры, усіх тых людзей, якія разумеюць, чым быў для нас Васіль Быкаў і чым ён застанецца для нас. Я шчаслівы тым, што ён быў побач са мною.

Ён даручыў мне зрабіць здабыткам расійскага чытача ягоную кнігу, якая прагучала на "Свабодзе", — "Доўгая дарога дадому".

Я гэта абавязкова зраблю, зраблю з усёй сілай, на якую толькі здольны як перакладчык ягоных твораў. Вечная памяць, вечная слава нашаму роднаму, незабыўнаму Васілю!

*Рыгор БАРАДУЛІН:*

## Памёр апостал беларускай нацыі...

"Памёр апостал беларускай нацыі", — заявіў у інтэрв'ю БелаПАН народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін з прычыны смерці свайго сябра, народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

Васіль Быкаў, адзначыў Рыгор Барадулін, быў "самым залежным пісьменнікам — ён залежаў ад праўды". "Па Васілю Быкаву ведалі, ведаюць і будуць ведаць Беларусь, беларускую літаратуру, шчырасць і жывучасць беларускай мовы, — сказаў паэт. — В.Быкаў застанецца ў свядомасці Беларусі як прыклад самага сумленнага чалавека. Апошнія гады пісьменнік быў вымушаны пісаць свае споведы практычна ў выгнанні. Быкаў заслужыў права на спакойнае жыццё дома, але дома для яго не знайшлося месца. Няхай гэта будзе на сумленні тых, хто вытурваў яго з Беларусі".

"Без яго на Беларусі стала пуста, няўтульна. Але ён застанецца назаўсёды для беларускай літаратуры, беларускай думкі і сумлення", — падкрэсліў Рыгор Барадулін.

*Вітаўт КІПЕЛЬ,*
*дырэктар Беларускага інстытута літаратуры і мастацтва ў Нью-Йорку:*

## Ён бачыў людзей па абодва бакі фронту

Гэтая навіна сапраўды мяне прыбіла. На працягу мінулага тыдня мы былі ў Вашынгтоне, і ў невялікай грамадзе мы ўспомнілі Васіля Быкава ў ягоны дзень нараджэння... Навіна злавесная і страшная.

Аб Быкаву як пісьменніку на эміграцыі стала чуваць ад пачатку 60-х гадоў — ягоная "Альпійская балада" ў першую чаргу і іншыя апавяданні, якія друкаваліся ў часопісах.

У беларускім друку на яго звярнуў увагу ўпершыню Станіслаў Станкевіч, а ў агульнаамерыканскім друку, расійска-англійскім, на яго звярнула ўвагу вядомы літаратурны крытык Аляксандрава, яна зрабіла некалькі рэцэнзій у рускамоўным і ў англамоўным друку, і гэта яе выраз, што за гэтым пісьменнікам — будучыня. Беларускія эмігранты ад самага пачатку вельмі палюбілі літаратуру Быкава, і нават кніжка "Мёртвым не баліць" была ўпершыню выдадзеная, мне здаецца, на эміграцыі. Потым творчасць Быкава вывучалі, вывучаліся ягоныя пераклады.

Наогул, трэба сказаць, што Быкава ў перакладах чытала вельмі шырокае грамадства — англамоўнае, французскамоўнае, і сапраўды для Беларусі ён зрабіў велізарную справу, папулярызуючы глыбіню беларускай думкі, аналіз свой, папулярызуючы наогул думанне, што яно ў беларускім народзе вельмі глыбокае.

Так што Быкаў для Беларусі працаваў не толькі як пісьменнік, але і наогул як вялікі дзеяч Беларусі, сумленне нацыі.

Гэта чалавек, які прайшоў вайну, і тым не менш ён заўважаў пазітыўныя і негатыўныя бакі людзей па абодва бакі фронту, аналізаваў, што іх прывяло, як яны апынуліся ў той ці іншай сітуацыі, — тое, што якраз і павінен рабіць пісьменнік.





*З жонкай Ірынай Міхайлаўнай.*



*З сынам.*



Фота Яўгена КОКТЫШЫ.

Народная Воля
24 ЧЭРВЕНЯ 2003 г.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Анатолий БАЙДАЧНЫЙ:

# «Я не знаю, что я делал бы на месте Малофеева...»

*Известный белорусский футбольный специалист, заслуженный тренер Беларуси Анатолий Байдачный в прошлом году отметил свой 50-летний юбилей. Это произошло в октябре. А в начале сентября, напомним, неожиданно "заболел" наставник национальной сборной Эдуард Малофеев. Поэтому уже тогда на страницах наиболее смелых изданий появились рассуждения на тему: не заменит ли Анатолий Николаевич Эдуарда Васильевича на этом ответственном посту? В то время А.Байдачный, расставшись с одним из российских клубов премьер-лиги, приехал в Минск отдохнуть, набраться сил. В разговоре с ним я спрашивала, не собирается ли он принять какой-нибудь белорусский клуб, а то и замахнуться на сборную? Анатолий Николаевич отвечал уклончиво: может быть, когда-нибудь, со временем... И вот сейчас он у руля столичного "Динамо".*



— С президентом "Динамо" Чижом мы знакомы и дружны с давних лет, — говорит он. — Но вопрос о том, чтобы я взялся за минское "Динамо", еще в прошлом году не стоял. В это время я тренировал российскую команду. Но так повернулось, что семь последних месяцев я находился дома. Многое обдумал, кое-какие вещи пересмотрел. И когда Юрий Александрович снова возвратился к разговору о "Динамо", мы вдвоем пришли к обоюдному соглашению и решили попробовать вместе сделать хорошую команду.

**— Это было до того, как Георги Гюров ушел в отставку?**

— То, что я буду главным тренером "Динамо", было известно еще до финала Кубка. Об этом писала спортивная пресса. Но так было нужно, чтобы Гюров выиграл кубок. Большой проблемы и труда это, по-моему, не составило. Я попросил руководство, чтобы болгарин провел с командой еще три игры, но после поражения от минского "Торпедо" в национальном чемпионате Чиж набрал мой номер и сказал: "Толя, приступай к работе!".

**— За эти несколько недель Вы уже успели вдохнуть в динамовцев бойцовский дух?**

— Пока в них вдохнуть еще ничего не успел. Пока потихоньку перестраиваемся, пытаемся быть немножко пособраннее, учимся проявлять самоотверженность и самоотдачу. Мы двигаемся, как те англичане: стэп бай стэп, что называется — шаг за шагом.

**— Что Вы хотите сделать из минского "Динамо"?**

— Команду, которая в какой-то мере была бы конкурентоспособной на международной арене. Это большая задача! Вы посмотрите, сегодня отток игроков из Беларуси очень невелик. О чем это говорит? О низком потенциале игроков. Поэтому нужно сделать так, чтобы футболист здесь заиграл на приличном уровне. Буду к этому стремиться, но один я бессилен.

**— Почему в выборе своего помощника Вы остановились на кандидатуре Юрия Курненина?**

— С ним долгое время работал, у нас одинаковые взгляды на футбол.

**— Каким Вам показался белорусский чемпионат на фоне российского?**

— Российский чемпионат ушел далеко вперед. Тяжело сравнивать, потому что в том же среднем российском клубе бюджет составляет 5 миллионов долларов, в то время как все вместе взятые белорусские клубы вряд ли имеют такую сумму. Там, естественно, и высококлассных игроков несравнимо больше.

**— Вы, как специалист, видите у наших игроков перспективу?**

— Белорусская земля еще не оскудела талантами. Пример? Александр Глеб — третий футболист чемпионата Германии. Все в наших руках. Но без хорошего финансирования — нет футбола!

**— Не боитесь того, что Вас постигнет участь предыдущих тренеров "Динамо" — у них тоже были грандиозные планы и амбиции?**

— Футбол такое дело: если у тебя есть результат — ты хороший, нет у тебя результата — ты плохой! Никуда от этого не денешься. И это не только в минском "Динамо", так во всем мире. Другое дело, когда тренер просто "не подходит" команде. Например, уровень игроков не соответствует квалификации тренера, или квалификация тренера не соответствует уровню игроков.

**— Говорят, у Вас взрывной характер. До трех не считаете — вот и кочуете из команды в команду.**

— Я не знаю, кто распространяет подобные слухи, но у меня всегда были прекрасные взаимоотношения с футболистами.

**— А как же конфликт с братьями Цыгалко?**

— Я сторонник дисциплины и команды-звезды, а не звезд в команде. Хотя настоящими звездами кого-либо во внутреннем белорусском футболе назвать сложно. В 20-летнем возрасте можно наделать больших ошибок. Просто у братьев закружилась голова от тех дифирамбов, которые им поют журналисты и поклонники. Нет таких игроков в белорусском чемпионате, без которых нельзя было бы обойтись. Думаю, они и сами это осознали. Все, кто играл со мной, почему-то благодарят за то, что они смогли состояться как личности в футболе. Тот же Попов, Кириченко... Бывали, конечно, размолвки с руководством клубов, когда я вытаскивал команду с самых низов, а руководство требовало чуть ли не "золота". Сегодня я не могу ставить перед белорусами сверхсложные задачи, потому что я знаю: пока они не смогут их выполнить.

**— А как Вам такое изречение: Байдачный обладает способностью доказать людям, что они не футболисты. По словам Тумиловича, ему Вы это доказали.**

— Как он мог сказать такие слова после того, как я взял его к себе в сочинскую "Жемчужину" в то время, когда он никому не был нужен как вратарь. Благодаря кому он попал в сборную?

**— Вам! Ходят слухи, что однажды он так засиделся в минском казино, что сообщил Вам о смерти своего брата?**

— Было-было! А я ж так распереживался. И тут у меня в номере раздается звонок. Я в недоумении: ты же мертв! Как мертв?! — возмущается брат Тумиловича. Представь мое состояние! Вся команда соболезновала ему, а он такие фокусы выкидывает. Вместе с тем я по-отцовски люблю Гену. И сожалею, что у такого талантливого человека неудачно складывается футбольная карьера. Мне его всегда жалко. Было жалко Гену в последней игре с австрийцами, когда его предали и отдали на растерзание. Я думаю, что это была для него большая психологическая травма.

**— А каково тренеру вынести такой удар?**

— Я не знаю, что я делал бы на месте Малофеева. Пока я не на его месте, но если бы я довел команду до такого состояния, то попросту ушел бы. Тут одно из двух: или команду менять надо, или тренера.

**— Да, тот же Тумилович говорит, что пора бы уже их разогнать...**

— Ну давайте махать шашками: выгоним этих, наберем других! Это эмоции. Все надо делать без ущерба. Приложить все усилия для того, чтобы место в составе сборной доставалось тому, кто действительно смог этого добиться своей игрой.

**— А Вам удастся добиться взаимопонимания между игроками, если Вам будет предложено возглавить команду?**

— Вот читаю я интервью Максима Ромащенко о том, что в сборной нет дисциплины: когда хотят приезжают, когда хотят уезжают. Он говорит, что футболисты не знают, что делать на футбольном поле, куда бежать, кому пасовать, то есть полностью отсутствует система. Хорошо, что он профессионально оценивает сложившуюся ситуацию. С такими футболистами одно удовольствие работать.

**— Но в команде не один Ромащенко. Даже такой мэтр, как Белькевич, не знает, что делать...**

— Белькевич — великолепный футболист, который является одним из лидеров киевского "Динамо". Он выходит в составе этого клуба и знает: если он пошел влево — его перекрыли в центре, пошел вправо — его подстраховали. Главная проблема сборной Беларуси в том, что Белькевич видит, что вокруг хаос, и думает: зачем мне это надо? Мне еще бы в клубе поиграть.

**— Кутузов как в нападении?**

— Я еще раз повторюсь: нельзя такого нападающего вызывать в команду. Нужно поставить перед ним задачу: сбросить 8 килограммов лишнего веса, начать играть в футбол. Как он себя запустил! И это беда многих наших футболистов, которые попадают за границу. Там с ними нянчиться не будут. Тебе платят деньги — отрабатывай их. Там сам себе хозяин. Мы же еще сохранили социалистическое воспитание.

**— Так, может, Вам пора уже тренировать национальную сборную?**

— Это очень ответственный шаг. Когда проигрывает клуб, то страдает определенная группа людей, работающая в нем, а когда проигрывает сборная, то проигрывает вся страна. Зачастую люди берутся тренировать сборную для того, чтобы прославить свое имя. Сборная Беларуси, как и любая другая, — это очень сложно, почетно и — ответственно. Я должен иметь программу, для того чтобы решать серьезные задачи.

**— ...Попасть на чемпионат мира?**

— Для того, чтобы попасть на чемпионат мира, мы должны повысить уровень национального чемпионата. Мы не окажемся в мире, в Европе по мановению волшебной палочки или с помощью Старика Хоттабыча. Так бывает только в сказках!

**Ольга РОМАНЮК.**
**Фото автора.**

# 24
## чэрвеня

**АЎТОРАК**
Усх. 4.38 Зах. 21.46
Даўж. дня 17.08
Апошняя квадра
21 чэрвеня

Сёлета спаўняецца **430 гадоў** з дня нараджэння Д. Набароўскага (1573—1640), паэта, перакладчыка, урача

## «Тарпеда-СКА» — аднаасобны лідэр

*На чэмпіянаце Беларусі па футболе адбыліся гульні першага тура, які быў перанесены з-за неспрыяльнага надвор'я.*

Мінскія дынамаўцы працягваюць пераможнае шэсце па футбольных палях краіны. Пад кіраўніцтвам Анатоля Байдачнага яны выйгралі чарговую сустрэчу. На гэты раз "Дынама" перамагло землякоў з "Лакаматыва" — 2:0.

Мінімальных перамог з лікам 1:0 дасягнулі магілёўскі "Днепр-Трансмаш" (над мінскай "Зоркай-ВА-БДУ), "Дарыда" з Мінскага раёна з такім жа вынікам адолела бабруйскую "Белшыну", а сталічнае "Тарпеда-СКА" было мацней за аднаклубнікаў з Жодзіна.

Два нічыйных зыходы былі зафіксаваны ў паядынках гродзенскага "Нёмана" і наваполацкага "Нафтана" — 1:1 і брэсцкага "Дынама" і футбольнага клуба "Гомель" — 0:0.

Нагадаем, што свой матч перанесенага тура барысаўскі БАТЭ і "Маладзечна-2000" правялі раней. Тады барысаўчане перамаглі сапернікаў з лікам 3:2.

У турнірнай табліцы па-ранейшаму на першым месцы мінскае "Тарпеда-СКА". Гэты клуб набраў 24 ачкі.

Тым часам салігорскі "Шахцёр", які не гуляў ва ўнутраным першынстве, правёў першы матч кубка Інтэртота з паўночна-ірландскім клубам "Ома-Таун". Беларусы перамаглі з лікам 1:0. Гульня ў адказ адбудзецца ў выхадныя.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**



ЛЮБОПЫТНО

## Жвачка с «Виагрой»

Крупнейший производитель жевательных резинок в мире — компания Wrigley получила патент на жвачку, содержащую активный элемент самого популярного лекарства против импотенции "Виагры".

Жевательная резинка, запатентованная в ноябре 2000 года, будет содержать до 100 мг силденил цитрата — вещества, на котором и держится феномен "Виагры".

## Стыдно перед внукам...

Из Пакистана пришла шокирующая новость. Она сильно обрадовала ученых-исследователей, но вряд ли пришлась по душе 80-летней пакистанке Хуршид Биби.

Эта жительница одной из деревень провинции Пенджаб обратилась в больницу с жалобами на легкие боли в животе. И оказалась беременной... С помощью ультразвука врачи определили, что она уже четыре месяца носит ребенка. Бабушка теперь стесняется возвращаться домой — ей стыдно сообщать своим взрослым и уже женатым внукам и внучкам о скором пополнении семейства. Ее мужу Ахмеддину 85 лет.



## Закончилась подписка... Но только не на «Народную волю»!

Если домашние заботы или служебная командировка отвлекли Вас настолько, что Вы забыли подписаться на "Народную волю", — не отчаивайтесь.

У Вас появилась уникальная возможность **оформлять подписку на любимую газету в любое время**, даже если официальная подписная кампания уже закончилась. Постоянные наши читатели уже знают (см. номера "Народной воли" за 13 и 18 июня), что редакция внедрила в Минске и Барановичах новую форму подписки — в редакции и на дому у подписчика через общественных почтальонов. Теперь этот перечень пополнился городом Горки. В ближайшее время, надеемся, география расширится.

Это очень удобно для Вас. Во-первых, значительно дешевле. Во-вторых, Вы сможете получать свежие новости вечером, накануне дня выхода газеты. И в-третьих, работа общественного почтальона может стать дополнительным заработком при неполной занятости для пенсионеров, студентов или даже целых семей.

По вопросам оформления подписки и сотрудничества звоните по телефонам:
**в Минске — 206-66-09, 206-68-71;**
**в Барановичах — (8-0163) 41-24-61, 45-54-80;**
**в Горках (Могилевской области) — (8-02233) 2-35-24.**

**Вы — с «Народной волей», «Народная воля» — с Вами!**

## Выпускнік школы падазраецца ў забойстве бацькі

Выпускнік адной са школ Брэста падазраецца ў забойстве свайго бацькі.

Труп 40-гадовага непрацуючага мужчыны, задушанага рамянём ад штаноў, быў знойдзены позна ўвечары 21 чэрвеня на лесвічнай пляцоўцы дома па вуліцы Гродзенскай. Паводле інфармацыі супрацоўнікаў крымінальнага вышуку Маскоўскага раёна Брэста, мужчыну задушыў падчас сваркі яго 17-гадовы сын, выпускнік адной са школ горада.

Падазроны затрыманы. Высветлілася, што і раней паміж бацькам і сынам надараліся сваркі з прычыны п'янства бацькі, які нярэдка збіваў сына.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Гандбалісты не трапілі ў фінальную частку чэмпіянату Еўропы

Мужчынская зборная Беларусі па гандболе не трапіла ў фінальную частку чэмпіянату Еўропы 2004 года.

21 чэрвеня ў паўторным матчы плей-оф кваліфікацыйнага турніру падапечныя Спартака Мірановіча саступілі ў Загрэбе чэмпіёнам свету харватам з лікам 20:30 (першы тайм — 6:15). Лепшым бамбардзірам у складзе гасцей стаў Сяргей Гарбок, на рахунку якога 8 мячоў.

У першым матчы гэтых сапернікаў 14 чэрвеня ў Мінску зборная Беларусі дамаглася нічыёй — 32:32.

## Сапернік мінскага «Дынама» — «Брондбю»

Вызначыўся сапернік футбалістаў мінскага "Дынама" ў кваліфікацыйным раундзе Кубка УЕФА. Ім стаў вядомы датскі клуб "Брондбю".

Першы матч паміж "Дынама" і "Брондбю" пройдзе 14 жніўня ў Даніі, паўторны — 28 жніўня ў Беларусі.

Нагадаем, што акрамя мінскага "Дынама" ў цяперашнім розыгрышы еўракубкаў Беларусь прадстаўляюць барысаўскі БАТЭ і гродзенскі "Нёман". У першым кваліфікацыйным раундзе Лігі чэмпіёнаў барысаўчане згуляюць з ірландскім "Багеміансам" (16 ліпеня дома і 23 ліпеня ў гасцях), а ў кваліфікацыйным раундзе Кубка УЕФА "Нёман" сустрэнецца з румынскай "Сцяуа" (14 жніўня дома і 28 жніўня ў гасцях).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Вторник, 24 июня

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00** Новости.
**06.10, 07.10** Доброе утро, Беларусь!
**08.10** "Волшебный мир моды". Док.фильм (Международный Французский Канал).
**09.10, 17.10** "Пси-фактор". Научно-фантастический сериал (США-Канада).
**10.05** Існасць. Духовная программа.
**10.35** "Есть только миг..." Виктор Янушевский.
**11.00** Из достоверных источников.
**11.10, 21.55** **"Королева сердец".** Сериал (Колумбия — Венесуэла).
**12.15** Добрый день, Беларусь!
**13.05** **"Государственная граница".** Сериал. Фильм 6-й **"За порогом Победы".** ("Беларусьфильм"). 1-я серия.
**14.15** Добрый день, Беларусь!
**14.35** "Сценарии искусства". Док.сериал (Международный Французский Канал).
**15.15** **"Нежный возраст".** Молодежный сериал (Международный Французский Канал).
**15.45** К 30-летию белорусской анимации. "Котенок Филя и ...", "Покати-горошек". Мультфильмы ("Беларусьфильм").
**16.05** **"Руины стреляют..."** Военный сериал ("Беларусьфильм").
**18.15** **"Агентство НЛС".** Сериал (Россия).
**19.05** Комедия **"Ванильно-клубничное мороженое".** (Франция).
**20.45** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**21.45** Новости региона.
**22.50** Зона Х.
**23.15** Ночной эфир.

### ОНТ — 1 ГОД

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.35** Наши новости.
**08.05** Телеканал "Доброе утро".
**09.05, 18.55** **"Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.50** Премьера. Многосерийный фильм **"Алмазная тропа".** 1-я и 2-я серии. СССР-ФРГ.
**11.40** Дисней-клуб: "Ким 5-с-плюсом".
**15.25** Детектив **"Всего одна ночь".** К/ст "Беларусьфильм".
**17.00** "Большая стирка" с Андреем Малаховым.
**18.10** Человек и закон.
**20.00** Время.
**21.00** "Кто хочет стать миллионером?" с Максимом Галкиным.
**22.05** "Паутина". Док.фильм.
**22.30** Многосерийный фильм **"Пятый угол".** Россия.
**23.50** "На футболе" с Виктором Гусевым.
**00.20** Дневник Московского кинофестиваля.

### РОССИЯ

**07.45** Телесериал **"Театральный блюз".**
**08.45** Детектив **"Марш Турецкого. Опасно для жизни".** 1-я серия.
**09.40, 18.50** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 19.00, 22.00** Вести.
**17.50** **"Комиссар Рекс".** Телесериал (Австрия-Германия).
**19.30** Местное время. Вести-Москва.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**19.55** Телесериал **"Театральный блюз".**
**21.00** Детектив **"Марш Турецкого. Опасно для жизни".** 2-я серия.
**22.20** Фильм "Марина Ладынина. Крупный план".
**22.45** Боевик **"Полет захватчика"** (США).

### КУЛЬТУРА

**15.05** "Владимир Горовиц. Последний романтик". Док.фильм.
**16.35** "Планеты". Док.сериал (Великобритания). 4-я серия. "Луна".
**17.30, 23.00** Новости культуры.
**17.50** "Порядок слов". Книжные новости.
**17.55** "Дворцовые тайны". "Верховный главнокомандующий".
**18.25** "Война священная". Док.сериал. Фильм 3-й. "Смоленск".
**18.55** "Партитуры не горят". Авторская программа А.Варгафтика.
**19.20** "Знаменитые арии". Сцена из оперы В.Моцарта "Похищение из сераля".
**19.35** "Энди Пенди". Мультсериал (Великобритания).
**19.45** **"Мефисто".** Худ.фильм (Венгрия).
**22.05** "Что делать?" Программа В.Третьякова.
**23.25** "Ночной полет". Ведущий Андрей Максимов.

### НТВ

**09.00** "Сегодня утром".
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** "Внимание. Розыск!". История с продолжением.
**10.10** Гарик Сукачев в программе Павла Лобкова "Растительная жизнь".
**11.00** "Сегодня" с Кириллом Поздняковым.
**14.35** "Месть и закон". Ток-шоу "Принцип домино".
**16.00** "Сегодня" с Кириллом Поздняковым.
**16.30** Сериал **"Скорая помощь".**
**17.25** Док.драма "Преступление и наказание".
**18.00** "Сегодня" с Татьяной Митковой.
**18.35** Сериал **"Улицы разбитых фонарей. Подставка".**
**19.50** Остросюжетный сериал **"Дальнобойщики. Школа демократии",** 13 серия.
**21.00** "Страна и мир". Главные события дня.
**21.30** Модный сериал **"Секс в большом городе".**
**22.15** Сериал **"Улицы разбитых фонарей".**

### СТВ+RenTV

**06.30** **"Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Телесериал.
**06.55, 15.25** "Флинт — детектив во времени". Мультсериал.
**07.20** "Минщина. Люди, события, факты".
**07.30, 13.30, 16.00, 19.30, 22.15** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт". Телеальманах.
**08.10** "Технология".
**08.20** Триллер **"Инспектор и убийца".** Франция-Италия.
**10.10** Хит-момент. Итоги месяца.
**10.25** "Игровой рефлекс".
**10.35** "Столичный футбол с Юрием Вергейчиком". Спортивная программа.
**11.00** "Пока горит свеча".
**11.30** "Безумный мир". Док.фильм.
**12.00** **"Вино любви".** Теленовелла.
**12.55** **"Капитан Правда".** Комедийный сериал.
**13.50** **"Нина".** Телесериал.
**14.45** Хит-момент. Итоги месяца.
**15.00** "Человек-паук". Мультсериал.
**15.50** Мультфильм.
**16.15** Кинороман **"Вечный зов",** 16-я серия.
**17.55** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.05** "Здравствуйте, доктор!".
**18.20** "Минск и минчане".
**18.25** "Тема дня".
**18.35** **"Нина".** Телесериал.
**19.55** "СТВ-спорт".
**20.05** "Добро пожаловаться.".
**20.15** Детский экран. "Добрый вечер, малыш".
**20.30** "Закон и криминал".
**20.45** Детектив **"Двойное убийство в баре, или Четыре листа фанеры".** Украина.
**22.35** "Технология".
**22.45** "Новости СНГ".
**23.00** Хит-момент. Премьер выпуск.
**23.25** Триллер **"Ночь беглеца".** США.

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Бюргер" представляет "Мульт-парад".
**17.55** Телемагазин.
**18.00** Худ.фильм **"Глория".**
**19.55** "8 самых...".
**20.00** Программа "Хвост кометы".
**20.40** Телемагазин.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют.
**21.10** Драма **"Храброе сердце".**

### ТВ ЦЕНТР

**06.00** Информационно-развлекательный канал "Настроение".
**07.50** Газетный дождь.
**08.00** Смотрите на канале.
**08.05** **"Разлученные".** Телесериал (Мексика).
**08.55** "Московские перекрестки" с Олегом Табаковым.
**09.25** "Последний из..." Специальный репортаж.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.10** "Момент истины". Авторская программа А.Караулова.
**12.05** Доходное место.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15** **"Инспектор Деррик".** Криминальный телесериал (Германия).
**14.20** Как добиться успеха. Доктор Богданов.
**14.30** Военно-полевой романс.
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Идущие вперед.
**16.00** **"На страже порядка".** Телесериал (Франция).
**17.15** "Любимых повторяя имена". Встреча в Доме кино.
**18.00** **"Загадочная женщина".** Телесериал (Венесуэла).
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Лицом к городу.
**20.00** **"Телохранители".** Телесериал (Великобритания). 2-я серия.
**21.45** Отдел "Х".
**22.20** Времечко.
**22.50** Петровка, 38.
**23.10** 25-й час. События. Время московское.
**23.30** Серебряный диск.
**23.50** **"По закону".** Телесериал (Великобритания).
**00.45** "Синий троллейбус". Телефон доверия для полуночников.

### EUROSPORT

**09.30** Олимпийский журнал. Специальный выпуск. Повтор.
**11.00** Футбол. Повтор.
**11.30** Еврооголы. Футбольный журнал. Повтор.
**12.00** Футбол. Кубок Конфедерации. Франция. Повтор.
**13.30** Ралли. Кипр. Повтор.
**14.00** Футбол. Повтор.
**14.30** Еврооголы. Футбольный журнал. Повтор.
**15.00** Футбол. Легенды Кубка мира. Германия. Повтор.
**16.00** Футбол. Кубок Конфедерации. Франция. Повтор.
**17.30** Легкая атлетика. Кубок Европы. Флоренция. Повтор.
**19.00** Легкая атлетика. Чемпионат США. Пало-Альто. Специальный обзор. Повтор.
**20.30** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Привью.
**21.00** Легкая атлетика. Гран-при. Афины. Прямая трансляция.
**23.00** Бокс. ТВА. Прямая трансляция.
**01.15** Мотогонки. Брно.
**01.45** Водно-моторный спорт.



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.
E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

Індэкс 63222.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.

Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП «Чырвоная зорка», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Фармат А-2. Тыраж: 29 390 экз. Заказ № 741.